№6(27)
2001г.
чэрвень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

**Мётча - тутэйшы куток, дзе традыцыі і сучаснасць жывуць разам**

*Чытайце на старонках* **4 - 5**

## Ад нумара да нумара

**Візіты**

*Барысаў 4 чэрвеня наведаў міністр абароны Л.Мальцаў.*

**Мерапрыемствы**

*З 21 па 27 траўня ў горадзе і вобласці праводзіўся тыдзень "Рука дапамогі – дзецям". Мэта мерапрыемства – прыцягнуць увагу да падлеткавай злачыннасці.*

* * *

*З 1 па 30 чэрвеня ДАІ сумесна з Мінпрыроды праводзяць аперацыю "Чыстае паветра". Яе мэта – павелічэнне экалагічнай бяспекі аўтатранспарту.*

* * *

*Кантрольна – рэвізійнае ўпраўленне Мінфіна праводзіла праверку АТ БАТЭ. Неадназначныя вынікі праверкі былі перададзены прэсе.*

* * *

*13 траўня ў Барысаве з нагоды Дня Дзяржаўнага герба і сцяга адбыўся мітынг.*

* * *

*ДАІ горада з 25 траўня па 10 чэрвеня праводзіла аперацыю "Асцярожна, дзеці!".*

(Заканчэнне на стар. 2)



## 14 чэрвеня 1792 года Барысаву было нададзена поўнае магдэбурскае права і гарадскі герб




## Кожнаму дрэву сваё месца

Беларусам уласціва любоў да роднай прыроды. Пра гэта прыкладам сцвярджалі даследчыкі, якія ў 80-я гады наведалі паселішчы беларускіх перасяленцаў у Сібіры. Нават там, засноўваючы свае вёскі, беларусы выбіралі месцы, каб былў хоць які лясок або балотца.

Падобную адметнасць нацыянальнага характару можна заўважыць і ў сённяшніх барысаўцаў. Не паспеюць нашы людзі засяліцца ў новыя шматпавярхоўкі, як пачынаюць пад самымі вокнамі садзіць самыя сур'ёзныя дрэвы: таполю, клён, асіну і г.д. Пройдзе колькі гадоў, дрэвы падрастуць і ўзнікне праблема: як спілаваць зялёнага гіганта, што затуліў кватэрам усё святло.

А тым часам брыгады ЖКГ горада да канца года ўжо распісаны час вызвалення многіх дамоў ад такіх гігантаў. Вось таму спецыялісты і раяць упрыгожваць свае дамы газонамі, дэкаратыўнымі кустарнікамі ды кветкамі.

*М.Пучыла*

## Ці ўбачыць "Відарыс" бераг турэцкі?

Жыхары турэцкага горада Алачаты маюць шанец убачыць у бліжэйшы час спектаклі барысаўскага тэатра "Відарыс". Але шанец, шчыра кажа рэжысёр тэатра Уладзімір Буйко, не вялікі.

Барысаўцы спрабуюць трапіць на фестываль аматарскіх тэатраў, які адбудзецца ў вышэйназваным горадзе. Але маецца шэраг акалічнасцей. Так, турэцкі бок марудзіць з прыняццем канчатковага рашэння аб правядзенні свята ў сувязі з эканамічным крызісам. Беларускае МЗС і Міністэрства культуры ў сваю чаргу вельмі павольна працуюць з патрэбнымі дакументамі. Так, фактычна асноўнай прычынай таго, што "Відарыс" не трапіў на падобны фестываль у турэцкім Дэнізлі, можна назваць біюракратычныя затрымкі ў гэтых міністэрствах.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Свая адметнасць павінна быць!

Праз газету "Гоман Барысаўшчыны" мушу звярнуцца да Барысаўскага гарвыканкама. З нагоды 900-годдзя заснавання горада трэба выпусціць значок, які адпавядае гэтай даце. Але ... подпіс на значках павінен быць адметным ад іх папярэдніх выпускаў, якія чамусці былі зроблены па-руску – "БОРИСОВ", а не мове нашых продкаў - беларускай – "БАРЫСАЎ".

*А.Шустоўскі*

*Нагадваем, што падпісны індэкс нашай газеты*
**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **100** руб., на **3** месяцы - **300** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **346** руб., на **3** месяцы - **1038** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **150** руб., на **3** месяцы - **450** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **403** руб., на **3** месяцы - **1209** руб.

## Ад нумара да нумара

**(Заканчэнне, пачатак на стар. 1)**

**Запазычанасць**

*Запазычнасць па зарплаце маюць трыццаць чатыры з 657-і гарадскіх прадпрыемстваў, якія праверыла Інспекцыя па ахове працы .*

**Прызыў**

*Чарговы набор у войска распачаты ў Барысаве 5 траўня.*

**Канферэнцыі**

*Канферэнцыя настаўнікаў раёна мела месца 16 траўня. Яе тэма – "Развіццё сістэмы адукацыі".*

* * *

*Напрыканцы траўня на базе Інстытута перападрыхтоўкі кадраў МНС у Светлым Гаі прайшла трохдзённая навукова – практычная канферэнцыя "Надзвычайныя становішчы: папярэджанні і зліквідаванне".*

**Клубы**

*Адчыніўся клуб майстроў народнай творчасці. Асноўная мэта стварэння клуба – дапамога майстрам у падрыхтоўцы выстаў.*

**Алімпіяды**

*У сярэдзіне траўня на базе Цэнтра тэхнічнай творчасці прайшла гарадская алімпіяда па тэхнічнай працы.*

**Спаборніцтвы**

*На пачатку чэрвеня прайшлі спаборніцтвы санітарных дружын прадпрыемстваў горада.*

* * *

*Барысаўскім райаддзелам БПСМ распачаты і працягваюцца спаборніцтвы маладых жывёлаводаў. Напрыканцы траўня падведзены вынікі за красавік.*

* * *

*19 навучальных устаноў прынялі ўдзел у вайсковай гульні "Арляня". Першае месца занялі каманды першай гімназіі і СШ № 9. Спаборніцтвы праходзілі ў 72-м навучальным цэнтры (Печы).*

* * *

*Каманда КВЗ "Неотложка" барысаўскага медвучылішча заняла трэцяе месца на абласным турніры ў Салігорску.*

**Канцэрты**

*У Барысаўскай харэаграфічнай школе прайшоў выніковы канцэрт. У гэтым годзе выпускнікамі сталі шэсць дзяўчат, якія выступілі з праграмай "Іспанскія танцы".*

* * *

*5 чэрвеня спектаклем "Крыж ля чорнага тракта" барысаўскі народны тэатр "Відарыс" завяршыў свой сёлетні тэатральны сезон.*

* * *

*Канцэрт, які быў прысвечаны заканчэнню пасяўной адбыўся ў Старабарысаве 9 чэрвеня. Арганізатар мерапрыемства – аддзел культуры райвыканкама.*

**Выставы**

*Напярэдадні дня перамогі ў выставачнай зале ЦГБ была адчынена выстава фотаздымкаў Авеніра Юшко "Аб вайне трэба памятаць". Усе работы аўтара прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. Частка здымкаў прысвечана пасляваеннаму Барысаву і мясцовым вайскоўцам.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



Сёлетнія выпускнікі барысаўскай беларускай гімназіі №2

# Вучоба скончылася. Наперадзе зноў вучоба?!

*Добрая адукацыя – адзін з асноўных крытэрыяў поспеху. Якую адукацыю збіраюцца набываць сённяшнія выпускнікі. У ходзе апытання, праведзенага сярод 65 выпускнікоў беларускай гімназіі №2, былі атрыманы наступныя вынікі.*

У сярэднія навучальныя ўстановы паступае 18%, у ВНУ – 82%. Самая папулярная ВНУ – БДПА – туды збіраецца паступаць 16% усіх выпускнікоў. Далей месцы размеркаваліся наступным чынам – Тэхналагічны універсітэт і Радыётэхнічны атрымалі па 12%, у дзве ВНУ адначасова паступае 8% (прычым адной з дзвюх заўсёды называлася БДПА), столькі ж (8%) збіраецца ў БДУ; Педуніверсітэт – 6%, Эканамічны – 4%, астатнія збіраюцца стаць студэнтамі Марской акадэміі, Інстытута кіравання, Сельгасакадэміі, Акадэміі мастацтваў і іншых ВНУ. Дарэчы, у мінулым годзе з 39 – ці выпускнікоў гімназіі ў ВНУ трапіла 29 чалавек, у тэхнікум - 8.

Увогуле па горадзе ў гэтым годзе выпускаецца з 11-х класаў 1208 чалавек, на раёне - 405; у мінулым годзе гэтыя лічбы былі адпаведна 1341; 420.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Дапаможам бліжняму свайму

Аб тым, што алкагалізм з кожным днём усё нарошчвае свае смяротныя метастазы, уяўляючы сабой страшную пагрозу нацыі, - гаворана – перагаворана. Аб тым, як змагацца з заганай, сказана таксама дастаткова, але вось ці ўсё зроблена...

Нядаўна барысаўскія паломнікі ў святое для каталікоў месца – Ліхеньскі кляштар у Польшчы, дзе захоўваецца цудадзейны вобраз Дзевы Марыі Ліхеньскай, - увачавідкі пераканаліся, як польскае грамадства змагаецца з алкагалізмам сродкамі рэлігіі.

Пры ліхеньскім Санктуарыі, заснаваным Марыінскім ардэнам манахаў, на грамадскія сродкі створаны і працуе цэнтр рэабілітацыі і дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў. У ім распрацаваны і паспяхова дзейнічаюць некалькі рэабілітацыйных праграм, у тым ліку і вядомая міжнародная праграма "АА" – ананімныя алкаголікі.

Сюды, пад пакровы Маці Боскай Ліхеньскай, якая слыве памочніцай усім нямоглым, хворым – "балесным", ідуць людзі па закліку збалелай душы. Дапамагчы ім таксама жадаюць ад душы і малітвай, і добрым словам, і магчымасцю ачышчальнай споведзі як перад Богам, так і перад такімі ж, як самі, людзьмі.

Па прыкладу Ліхеньскага створаны цэнтры дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў па ўсёй Польшчы. Яны з'яўляюцца выратавальнымі для многіх і многіх людзей. Дзяржава ж не траціць на гэта грошай. Яна толькі стварае ўмовы для таго, каб веруючыя людзі змаглі рэальна, а не на словах, дапамагчы бліжняму свайму.

***А.Турко***

## Пасля вучобы – будзе работа

Прафесіянальны ліцэй №1 толькі з ліпеня мінулага года стаў так называцца. Да таго ж часу і навучэнцы, і выпускнікі, і педагогі мелі падставу ганарыцца сваёй прыналежнасцю да прафесіянальна – тэхнічнага вучылішча №85.

Новы статус гэтай навучальнай установы перш за ўсё звязваецца з неабходнасцю і магчымасцю максімальна ўлічваць асабістыя жыццёвыя імкненні кожнага навучэнца, дапамагаць яму тут рэалізавацца. Вельмі важна, што цяперашнія навучэнцы атрымліваюць па некалькі кваліфікацый па кожнаму з напрамкаў навучання.

Цудоўныя перспектывы працаўладкавання ў родным горадзе, а таксама ў Менску, маюць, напрыклад, тыя юнакі і дзяўчаты, якія навучаюцца па спецыяльнасці "афіцыянт", "бармен", "буфетчык". Практычныя заняткі навучэнцаў ідуць у лабараторыі, абсталяванай усімі атрыбутамі сучаснага бара. Майстар вытворчага навучання Людміла Ніканораўна Нядоступ, якая мае саракагадовы стаж у сістэме грамадскага харчавання, па крупінках сабрала метадычныя распрацоўкі навучання прафесіі і ўзбагаціла іх уласнымі ведамі і навыкамі.

Атрымаўшы такім чынам добрую практычную падрыхтоўку, навучэнцы яшчэ пасля праходзяць вытворчую практыку у барысаўскіх рэстаранах, кафэ і барах, дзе ім рады і гатовы прапанаваць пастаянную работу пасля заканчэння ліцэя.

***А.Турко***

## Удакладненне

У мінулым нумары нашай газеты пры ўказанні тых, хто падрыхтаваў пераможцаў школьных алімпіяд, па віне рэдакцыі была прапушчана настаўніца геаграфіі СШ №17 Сыраежкіна Галіна Станіславаўна. Прыносім прабачэнне за дадзеную недакладнасць.

# Аварыйна –выратавальная служба

*Пэўны час таму пажарным часткам Барысава і рэспублікі быў нададзены статус аварыйна – выратавальных атрадаў. Гэта мала што змяніла ў стаўленні грамадства да хлопцаў на вялікіх чырвоных машынах.*

Гэтая інерцыя захавалася і ў прэсе – паведамленні аб адбыўшыхся пажарах з'яўляюцца рэгулярна, але ніхто не кажа ад чаго ці ад каго нас ўжо амаль паўтары гады выратоўваюць пажарныя.

На самой справе аварыйна – выратавальныя атрады адыгрываюць значную ролю ў справе бяспекі грамадзян. Патлумачым гэта сцверджанне на прыкладзе барысаўскай пажарнай часткі.

На дах аднаго з карпусоў ДК "Піянінкі" з больш высокага будынка зваліўся мужчына. Падаючы зламаў нагу. Зняць яго з даволі значнай вышыні не было аніякай магчымасці. Але на дапамогу прыйшлі выратавальнікі. На трасе Брэст – Масква здарылася аварыя. Каб выцягнуць пацярпелых са змятага, як ліст паперы, кузава, байцы атрада выкарысталі гідра – кусачкі, якімі можна разрэзаць нават 25-мм прут сталі.



*Выратавальнікі - гэта тыя, хто ў любы момант гатовы прыйсці на дапамогу*





Не адзін раз за гэты тэрмін выратавальнікі выязджалі збіраць разлітую ртуць. Час ад часу вызваляюць дзяцей, якія як у пастцы, апынуліся за металічнымі дзвярыма. Гэта прытым, што ніхто не вызваў іх, зразумела, ад працы па ліквідацыі пажараў.

Як бачна, ад дзеянняў атрада залежыць не толькі здароўе людзей, але часам і пытанне жыцця альбо смерці.

Але нават калі не здараецца нічога надзвычайнага, пералік работ выратавальнікаў можна было б працягваць як па зместу выконваемай працы, так і па назвах устаноў, што атрымалі дапамогу.

Так пажарныя дапамагалі ўсталёўваць радыёмачты ў ваеннай частцы, мянялі лямпачкі ў ліхтарах СШ№20, па просьбе ГАУС ускрывалі дзверы кватэр. На жылы дом упала дрэва – аварыйныя работы выконвалі выратавальнікі.

Пад час вялікіх дажджоў яны адкачвалі ваду як з падвалаў сталовай дзетсада, так і з памяшканняў Белзнешэканамбанка. Часта робяць такую непрыкметную справу, як прабіўка каналізацыі. Дапамагалі гарвыканкаму ў падрыхтоўцы да святаў. Дзяжурылі пад час фестывалю на Брылёўскім полі. І інш..., інш...

Прафесія, як бачам наколькі небяспечная, настолькі ж і цікавая. У далейшым мы будзем распавядаць вам, нашыя чытачы, аб усіх нестандартных сітуацыях, у якія амаль кожны дзень трапляюць барысаўскія выратавальнікі.

*С.Нялюбін*

# Ад іскры ўзгарэлася полымя

У ноч на 26 траўня дзяжурны паста ДАІ, які знаходзіцца на трасе Брэст – Масква, заўважыў усполых за бліжэйшым мастом і полымя, якое адразу пасля гэтага ўскалыхнула цемру.

Тое, што адбывалася далей, лепш за ўсё апісвае працоўны запіс у дзяжурным журнале пажарнай часткі горада.

Пасля таго, як на выклік была скіравана машына, пажарныя ў 01г.51хв. "заўважылі адкрыты агонь". У 1г.55хв. байцы прыбылі на месца здарэння

Гарэў мікрааўтобус з прычэпам, якія пад завязку былі забіты 200 – літровымі бочкамі з бензінам. Усяго пажарныя налічылі 20 бочак з палівам. Пажар быў заліты пенай.

Кіроўцы на месцы не было. Як высветлілася пазней, ён пабег выклікаць пажарных, каб тыя выратавалі яго толькі што набыты "Мерседэс", на якім ён і ездзіў у Расію за палівам...

Прычынай пажару стала іскра, што ўзнікла ад "дэфармацыі прычапной прылады".

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Падведзены вынікі акцыі

21 траўня былі падведзены вынікі акцыі "Пазнаем Беларусь", якую праводзілі рэдакцыя газеты "Гоман Барысаўшчыны" і турыстычнае агенцтва "Агата – тур". У акцыі прынялі ўдзел некалькі соцень чалавек. Пераможцамі былі прызнаны: калектыўным – група школьнікаў СШ №16 (настаўніца С.Буртаева), індывідуальнымі – Г.Кавалёва (політэхнічны ліцэй, 9 клас) і А.Солдак (СШ №17, 9 клас). Для пераможцаў 27 траўня была праведзена адметная экскурсія па Барысаву і Барысаўскаму раёну. Падрабязнасці пра яе чытайце ў наступным нумары нашай газеты.

# Жаночы крызісны цэнтр

У Барысаве ноноў распачаў сваю працу жаночы крызісны цэнтр. Паслугі, якія ён прапаноўвае – бясплатныя кансультацыі юрыста і псіхолага.

Гэта гуманітарная ўстанова з'явілася дзякуючы ўзаемадзеянню барысаўскай жаночай сацыяльнай арганізацыі "Правінцыя" і Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны".

Нагадаем, што пэўны час таму ў горадзе існаваў падобны цэнтр і тады яго паслугамі здолелі карыстацца сотні жанчын, што трапілі ў складаныя жыццёвыя абставіны.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Да дня медработніка

*Медработнікам кардыялагічных аддзяленняў №1 і №2 Барысаўскай ЦРБ.*

**Сардэчная падзяка**

**Да вас мяне часта дарога вядзе,**
**На Вас вельмі многа прыемных надзей.**
**І звязана з Вамі шмат добрых падзей:**
**Адным словам, медык – людскі дабрадзей.**

**Крычу сэрцам "дзякуй" з раскрытых грудзей,**
**Затое, што Вы ратавалі людзей.**
**Хай Бог Вас шчаслівай дарогай вядзе**
**І светлую радасць прыносіць штодзень.**

*Д.Самойленка*

# Аварыя на чыгунцы

Аварыя сеткі электрасілкавання прыгарадных цягнікоў адбылася 22 траўня на ўчастку Барысаў – Менск.

Падчас рушання электрацягніка адзін з токаправодзячых правадоў быў абарваны і трапіў на рэйкі. Стварылася рэальная пагроза паражэння электрычным токам пасажыраў, якія спрабавалі выйсці з перапоўненай электрычкі, каб пешшу дабрацца да бліжэйшай станцыі. Машыніст папярэдзіў па гучнай сувязі аб небяспецы і прасіў пачакаць прыезду рамонтнікаў.

Аварыйная служба прыбыла недзе праз гадзіну, але так і не здолела ліквідаваць аварыю. Тым часам людзі, якія знаходзіліся ў зачыненым цягніку, пачалі хвалявацца. У рэшце рэшт "электрычку" да бліжэйшай станцыі адбуксіравалі дызыль, дзе пасажыры перасели на іншы цягнік. Графік руху прыгарадных электрацягнікоў у той дзень быў адноўлены толькі к вечару.

*Служба інфармацыі "ГБ"*




## Мядоцкі кнігазбор

*Далёка не кожная вёска можа пахваліцца хаця б адной кнігай пра свой край і яго людзей. Мётча – выключэнне з гэтага шэрагу, яна мае некалькі такіх кніг.*

*1. **Мядоцкі край і яго таленты. Даведнік фестывалю "Мядоцкі край і яго таленты".** –Менск: ВЛАДІ-АРТ. 1997. – 110 с.*



*2. Янка Лайкоў. **Логіка пасткі.** –Менск: Бібліятэка часопіса "Маладосць". 2000. –32 с.*




*3. М.Козенка, А.Абрамовіч. **Мы – Берагіня.** –Менск: Чатыры чвэрці. 2001. –116 с.*

# Мядоцкі край –

## Гістарычная даведка

Старых гістарычных звестак пра Мётчу і Мядоцкі край захавалася вельмі мала. Аднак і яны сведчаць аб тым, што ў былыя часы Мётча мела як уздымы, так і падзенні.

Найбольш старое пісьмовае сведчанне пра рушанне вандроўнікоў праз землі Мядоцкага краю можа быць аднесена да 1516 года. У той час з Барысава ў накірунку Арэшкавіч праязджаў пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунт Герберштэйн. Але ён на сваім шляху па Барысаўшчыне не называе ніводнага населенага пункта. Больш таго, Герберштэйн адзначаў бязлюднасць мясцін на працягу ўсяго шляху.

Больш падрабязныя звесткі пра Мётчу можна сустрэць з XIX стагоддзя. У першай яго палове – сярэдзіне яна з'яўлялася цэнтрам навакольных вёсак, мела прыхадскую царкву. Апошні будынак царквы ў Мётчы – царквы Раства Багародзіцы знаходзіўся на могілках і быў узведзены ў 1837 годзе за кошт тамтэйшых вернікаў. Аднак у другой палове XIX стагоддзя па нейкай прычыне мядоцкі прыход касуецца, а царква з прыхаджанамі перапарадкоўваецца да прыходу ў Вяляцічах. Праіснавала царква на могілках ў Мётчы да 60-х гадоў XX стагоддзя.

У 1884 годзе ў вёсцы адкрываецца школа, якая ў дакументах за 1911 год узгадваецца як двухкамплектнае земскае народнае вучылішча.

На пачатку XX стагоддзя – у 1908 годзе ў Мётчы была 101 жылая хата, мелася 13 студняў. На рацэ Мужанцы быў млын, разам з ім была плаціна даўжынёю ў 12 сажняў і двума мастамі.

Сёння ў Мётчы пражывае больш за 700 жыхароў. Яна з'яўляецца цэнтрам сельсавета. Але адметна Мётча не гэтым, а сваімі людзьмі, іх пашаноўным стаўленнем да сваіх каранёў, традыцый продкаў. Нездарма яна ператварылася ў адзін з цэнтраў культуры не толькі Барысаўшчыны, але, можна сцвярджаць, што і Беларусі наогул. Тут нярэдкімі гасцямі з'яўляюцца Рыгор Барадулін, Алег Лойка, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Вячаслаў Рагойша і многія іншыя вядомыя асобы нашай дзяржавы. Далёка за межамі Барысаўшчыны вядомы і тутэйшы фестываль "Мядоцкі край і яго таленты", а тутэйшы фальклорны гурт "Берагіня", безумоўна, з'яўляецца з'явай агульнанацыянальнага маштабу.





**Удзельнікі фальклорных чытанняў (зверху)**
**Краявіды ў Мётчы (знізу)**

## Усе ў госці да "Берагіні"

Святкаванне пяцігадовага юбілею унікальнага мётчанскага фальклорнага гурта "Берагіня" стала адначасова і альтэрнатывай другому туру фестывалю "Мядоцкі край і яго таленты". Падараваць на юбілей "Берагіні" свае песні, музыку сабраліся гурты традыцыйных музычных напрамкаў як з Барысаўскага раёна, так і з Менска і шматлікіх іншых рэгіёнаў.

"Берагіня" мае поўнае права на такое грандыёзнае віншаванне. За пяць год гурт даў звыш 50 канцэртаў, а пералік яго рэгалій патрабуе значнай газетнай плошчы. За гэты час ён набыў для Мётчы гэткае ж значэнне, як зборная па футболу для Бразіліі. У калектыве, які налічвае паўсотні ўдзельнікаў, існуе вельмі шчыльная пераемасць пакаленняў. Рэпертуар малодшай, сярэдняй і старшай груп "Берагіні" адлюстоўвае ўвесь спектр багацця мясцовага аўтэнтычнага танца, гульнёвага і музычнага фальклору. Асаблівую цікавасць выклікаюць танцы старажытнага паходжання: "Матлёт", "Жыдовачка", "Каханачка".

Святкаванне пачалося 19 траўня. Мётча сустрэла нас гукамі вальнкі і жалейкі – перад пачаткам ушанавальна – мастацкай праграмы госці "Берагіні" рэпетыравалі непасрэдна на прыродзе. На вуліцы дзеці і падлеткі ў нацыянальным адзенні розных рэгіёнаў Беларусі гралі, спрабавалі танчыць. Калі б не мікрааўтобусы гуртоў і будынак Дома культуры, узнікала б адчуванне знаходжання на сярэдневечным беларускім кірмашы.

Урачыстасці набліжаліся. У поўнай зале на першых радах "ціхенька" распяваюцца Дзіна і Таня з гурта "Ветах". Іх звонкія галасы перакрывалі гул залы.





*Выступае "Берагіня" (злева)*

*Торт, які быў падараны суседзямі з Ухалоды (справа)*



*"Берагіня" - гэта заўсёды ўсмешка*

*Выступае фальклорны гурт дзіцячага садка Мётчы (злева)*

*Конкурс танцавальных пар (справа)*

*Рэпетыруюць удзельнікі гурта "Ветах" з Менска (знізу)*



# зямля талентаў

Праграма пачалася з афіцыйных віншаванняў. Разам з сябрамі "Берагіні" атрымалі значную долю кампліментаў і, па выразу намесніка раённага аддзела адукацыі "трое вялікіх" – Уладзімір Лайкоў, Мікалай Козенка і Антаніна Абрамовіч. Трэба патлумачыць, што Антаніна Абрамовіч з'яўляецца музычным кіраўніком гурта, Мікалай Козенка – стваральнік "Берагіні" і мастацкі кіраўнік. А без Уладзіміра Лайкова, дырэктара Мётчанскай школы, увогуле "свята б не было і музыка не грала" – ён адзін з асноўных арганізатараў і натхняльнікаў свята.

У вялікай колькасці ўшанаванняў, якія прысвячалі "Берагіні" дзеячы культуры, стаяўшым побач на сцэне хлопцам і дзяўчатам з "Берагіні", акрамя заслужаных пахвал, падабалася і тое, што кожны прамоўца ўручаў падарунак. У сукупнасці ў той вечар гурт атрымаў магнітафон, вялізарных памераў торт, скарбонку, фотаапарат, ляльку, чайнік для гарбаты, вазон, кнігі, паштоўку, гадзіннік, ручнік і іншае, вельмі шмат грамат і амаль столькі ж кветак.

Пасля афіцыйных віншаванняў "Берагіня" пачала прымаць творчыя. Першымі выйшлі лошніцкія дзяўчынкі з прыпеўкамі, як кажуць "ад глебы". На маленькай сцэне было цесна для размашыстых рухаў іх ансамбля "Дзявочы карагод". Потым былі фальклорны гурт малодшых школьнікаў і садка, фальклорныя калектывы Барысаўшчыны, Менска, мястэчка Акцябрск Гомельскай вобласці.

Былі на сцэне і паэты. Сталыя, з сур'ёзнымі вершамі, і альтэрнатыўныя, больш маладыя. Так вершы маладога менскага паэта Віктара "Я хачу мяса" і "Боўдзіла лясное" выклікалі ў слухачоў сапраўднае захапленне.

Да гэтага часу зала была, як кажуць, "добра разагрэта", ахвотна ўспрымала і падтрымлівала выступаючых. Заклік паэта "Жыве Мядоцкі край!" зала натхнёна падхапіла "Жыве!!!".

Каб пацвердзіць, што ўсё сказанае на вечары пра "Берагіню"было праўдай, на сцэне з'явіліся яе танцавальныя пары. "Полька", "Падэспань" уражвалі экспрэсіяй. Здавалася, чарговая пара проста вылеціць са сцэны ў залу:

І ў танцы віхурным што сілы
Мядоцкая памяць жыве.

Калі б можна было супрацьпаставіць апісанне яшчэ і гуказапісам, карціна стала б утрая паўней: грукат абцасаў аб падлогу, гукі жалейкі і валынкі, падвыванне маленькіх спевакоў у першых радах, пляцканне ў ладкі разгулялых гледачоў, нават не авацыі, а нейкі гул напрыканцы. Канцэрт скончыўся, калі ў Мётчу ўвайшла ноч...

Другі дзень святкавання народзінаў "Берагіні" распачаўся з конкурсу пар, якія выконвалі агульнанацыянальныя і мясцовыя танцы

- Сёння мы ўбачылі фінал, у які трапілі толькі лепшыя. За ўвесь час падрыхтоўкі да свята танцам і абрадам продкаў навучылася шмат хлопцаў і дзяўчат Мётчы і іншых вёсак, - кажа Уладзімір Лайкоў.

Самі ўдзельнікі на пранізлівым ветры чакалі пачатку спаборніцтваў. Адкрытая пляцоўка, дзе адбываліся асноўныя падзеі, толькі зрэдку асвятлялася даволі халодным у той дзень сонцам. Але канкурсантаў акрамя нацыянальных строяў і марафонскіх нумароў грэла імкненне прадэманстраваць гледачам сваё майстэрства і прага да перамогі. Большасць намінацый забралі, магчыма, з-за няўдзелу юбіляра – "Берагіні", пары з Лошніцы.

Свята заканчвалася канцэртам, на якім выступалі як аднагодкі "Берагіні", так і "патрыярхі" – захавальнікі тутэйшых традыцый і ўвогуле ўсе, хто жадаў.

Калі верыць паданню пра буслоў, то ў гэтай вёсцы жывуць добрыя і шчаслівыя людзі – гнёзд птушак – сімвалаў мы бачылі нават некалькі.

А гурт "Берагіня" аберагае дух чалавечнасці і традыцый, які жыве ў Мядоцкім краі.

***Старонку падрыхтавалі М.Мацельскі і С.Нялюбін***

# Пра свята, пра "Берагіню" і пра традыцыі

*Мядоцкі край слаўны традыцыямі, якія і сёння захоўваюцца, развіваюцца і ствараюцца амаль усімі яго жыхарамі. Вёскі адметныя рамёствамі, музыкай, своеасаблівай культурай. Тут не кажуць "народныя", але "нашы спевы", "нашы танцы і мелодыі".*



**Марыя Казіміраўна Паўлавец**: Пра свята нічога не ведаю. Але дома спяваю. Добра вышывала калісьці. Захапленнем было рабіць боты і валяць валенкі. Зараз вельмі старая стала.

**Іра Чаравічнік**: У Малых Негнавічах жыве бабуля Лідзія Пятроўна Абрамовіч. Яна навучыла мяне песням і маслянкам (пяе маслянку вельмі прыгожым галаскам). Потым я трапіла ў "Берагіню". Можна што небудзь пажадаць? Няхай у "Берагіні" будзе больш кіраўнікоў, тканіны на касцюмы і вось столькі паспехаў і шчасця!



**Даша і Жэня** (ім у хуткім часе споўніцца па 10): Мы прыйшлі ў "Берагіню", таму што мы беларускі. Бачылі як мы выступалі? Мы вельмі задаволены.



**Паша Лазерка**: Мы так рэпетыруем, што, здараецца, падаем. Смяемся. Адзін хлопец пад час танцаў заўсёды грукаўся аб дзверы. Потым не вытрымаў і зняў іх з петляў. Не ведаю, што можа быць лепш за "Берагіню". Я запісаўся ў гэтым годзе і зараз граю на бубне.



**Антаніна Абрамовіч** (муз.кіраўнік): Выступілі добра, але я ніколі поўнасцю задаволенай не бываю. Трэба працаваць на перспектыву. А перспектыва, будучыня ў тым, што дзеці пераймаюць традыцыі, робяцца творчымі асобамі. Мы закладваем аснову светаўспрыняцця, а не робім прафесійных фальклярыстаў.

**Абрамовіч Паліна**: Мы рыхтаваліся да гэтага свята год. Я ў "Берагіні" з самага пачатку, бо мяне вельмі прыцягваюць старажытныя традыцыі і ўсё звязанае з творчасцю.



**Уладзімір Лайкоў**: Мы вядзём сістэматычную працу – вось што галоўнае. Фальклорныя чытанні і фінал народных танцаў – толькі вынік. Але атрымалася сапраўднае свята.



# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 26 за 1996 - 2001 гг.)*

Калі ішлі баі ў Барысаве, Напалеон з 11 тысячамі жаўнераў перапраўляўся праз Дняпро ў Воршу. Да Бярэзіны яму на дапамогу рухаліся корпусы маршалаў Удзіно і Віктора, якія мелі каля 20 тысячаў вайскоўцаў. Злучэнне французаў адбылося ў мястэчку Бобр.

Тым часам 10 лістапада да Барысава падышлі асноўныя сілы адмірала Чычагова, які размясціў свой штаб у нашым горадзе. Самі ж войскі былі размешчаны на правабярэжжы Бярэзіны ад Зембіна да Ушы. Генерал – маёр Пален, што быў прызначаны камандаваць авангардам арміі замест параненага Ламберта, пайшоў з войскам па Аршанскаму тракту на Лошніцу ўслед за жаўнерамі Дамброўскага. Аднак Пален нечакана для сябе сутыкнуўся з вялікімі сіламі корпуса Удзіно і быў імі разбіты. Рэшткі атрада рускага войска адступалі да Барысава, а па іх слядах ішлі французы. 11 лістапада войскі Удзіно былі ўжо каля Барысава.

Для абароны горада ад французаў на ўскрайку Барысава каля млына на рацэ Сха (раён сучаснага маста праз Сху па вуліцы 1-й Маскоўскай дывізіі) былі ўсталяваны гарматы. Але яны апынуліся па-за падзеямі. Рэшткі войска Палена перапраўіліся бродам праз Сху значна паўночней. Услед за імі тым жа шляхам у Барысаў увайшлі французы. Баі з выкарыстоўваннем стрэльбаў і гарматаў адбываліся непасрэдна ў горадзе. У выніку чаго была спалена яго значная частка. Рускія вайскоўцы не былі гатовы да такога павароту падзеяў і 11 лістапада каля 15 гадзін былі вымушаны адступіць на правы бераг Бярэзіны. Пры гэтым у Барысаве было пакінута шмат маёмасці. Пасля адступлення праз Бярэзіну быў спалены мост, што не дазволіла французам авалодаць пераправай. У выніку контрнаступу французаў руская армія згубіла забітымі каля 600 чалавек.

12 лістапада ў Барысаў са сваёю дывізіяй уступіў Нэй. Напалеон у гэты час ужо быў у Лошніцы, дзе пераначаваў і рушыў да Бярэзіны. На наступны дзень у наш горад ўжо прыбылі асноўныя сілы французаў. Тут яны апошні раз да Вільні змаглі больш ці менш істотна папоўніць запасы ежы. Сам Напалеон быў у Барысаве ў 17 гадзін 13 лістапада.

Становішча Напалеона, на першы погляд, здавалася бязвыхадным. Але рашэнне было знойдзена. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгралі тутэйшыя сяляне. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, што прынесла вайна, шмат хто працягваў успрымаць польскія войскі як саюзныя, якія абараняюць агульныя інтарэсы. Гэта адзначалі ў сваіх успамінах многія ўдзельнікі тых падзей. У мемуарах аднаго з іх – француза Марбо гаворыцца, што напярэдадні адыходу Напалеона да Барысава, калі перадавыя часткі арміі Удзіно – атрад Кабрыно з польскімі ўланамі былі ў палове дня пераходу ад яго, тутэйшыя сяляне папярэдзілі польскіх вайскоўцаў, што ў Барысаве ўжо знаходзяцца рускія войскі. Сяляне прапанавалі ім вярнуцца трошкі назад, распавялі пра брод каля Студзёнкі і правялі да яго акольным шляхам паміж арміямі Чычагова і Віттенштэйна ўланаў разам з атрадам Кабрыно. Па словах Марбо, Напалеон прыняў канчатковае рашэнне аб пераправе ў Студзёнцы пасля таго, як пераканаўся, што ў Барысаве мост аднавіць немагчыма і асабістай гутаркі з Кабрыно. Ад яго Напалеон і даведаўся пра магчымасць пераправы ў Студзёнцы.

Дзеля таго, каб войска Чычагова не замінала ладзіць пераправу на поўдзень ад горада да Ухалоды, быў накіраваны батальён пяхоты і абоз з бярвеннямі. Услед за імі ішла частка цывільных французаў. Акрамя таго, начальнік штаба корпуса Удзіно Ларэнсэ сабраў у Барысаве ўплывовых гандляроў і падрабязна распытваў у іх аб шляхах на Менск на поўдзень ад горада. Гэта інфармацыя трапіла да рускага войска і пераканала Чычагова ў тым, што Напалеон збіраецца фарсіраваць Бярэзіну ніжэй Барысава.

*(Працяг будзе)*

*М.Мацельскі*



*Наша газета ўжо пісала пра былы маёнтак у Забашавічах. Паведамлялі мы і пра тое, што адзін з яго будынкаў пераабсталяваны пад царкву. Сёння мы паказваем вам яе выгляд.*

***Фота А.Жызнеўскага***



# Ганебны склероз

*Гэты артыкул быў напісаны вядомым тутэйшым краязнаўцам А.Разэнблюмам у 1992 годзе для адной з новых тутэйшых газет. Аднак гэта газета так і не здолела выйсці і матэрыял застаўся ненадрукаваным. Праблемы, якія ўздымаліся ў ім, не згубілі сваёй актуальнасці і сёння. Таму мы вырашылі прапанаваць сваім чытачам гэты артыкул.*

Больш трохсот вёсак налічвае сёння наш Барысаўскі раён. Кожная з іх – гэта часцінка нашага быцця, самабытны астравок, аб якім можна было б расказаць шмат цікавага або нават напісаць цэлую кнігу. Асабліва багатай гісторыяй маглі б пахваліцца, напрыклад, Мсціж, Дзедзелавічы, Зембін, Студзёнка, Брылі, Стара-Барысаў, Чэрнеўка, Забашавічы…

Але хто сёння вывучае гісторыю вёсак? Ці ёсць цяпер сярод нас Тышкевічы і Ельскія?

Краязнаўства і яго актывістаў разграмілі яшчэ ў канцы 20-х гадоў, калі цікавасць да самабытнай культуры свайго дому стала разглядацца як праяўленне нацыяналізму. З таго часу і пачаўся працэс забыцця. Многія вёскі зніклі і працягваюць знікаць. Праходзіць нейкі час, і не знаходзіш ад іх ніякіх слядоў ні на мясцовасці, ні ў памяці.

Што ж рабіць, як пазбавіцца ад ганебнага склерозу?

Мне здаецца, вывучэнне ў шырокім аспекце гісторыі навакольных вёсак павінна ўвайсці ў абавязковую праграму сельскіх школ. А калі зрабіць пакуль мы гэта не гатовы, трэба зрабіць у кожнай сярэдняй школе працаздольныя краязнаўчыя гурткі, якія маглі б весці належны пошук і пастаянную асветніцкую работу.

Вялікую дапамогу маглі б аказаць і музеі. У Іканах сёння можна наведаць нядрэнны сельскі музей народнай славы, але было б лепш пераўтварыць яго ў музей гісторыі вёсак Барысаўшчыны. Слава славай, але пагоня за ёю пакідае ў цяні прозу жыцця, сум і гора. І што наогул мы ведаем пра сваіх продкаў, хто далей бацькі і дзеда?

Мы шмат гаворым пра нашу гістарычную спадчыну. Але мала робім, таму вынікаў не бачым. А касталомаў гісторыі і проста абыякавых людзей сярод нас хапае. Падумайце ж, грамадзяне, адкуль вы родам і што вы пакінеце сваім нашчадкам. Няўжо толькі палын?

*А.Разэнблюм*

# Пра наша каханне

*Які разумны чалавек не хацеў бы часцей бачыць на экране сучаснае нацыянальнае кіно? Ведома, усе хацелі б, але гэта павінна быць відовішчнае кіно, захапляючае і, ведома ж, разумнае. Адным словам, тое, якое змоша вытрымаць канкурэнцыю з паўсюднымі амерыканскімі баевікамі.*

Кінастудыя "Беларусьфільм", якая некалі славілася сваімі карцінамі не толькі ў вялікай краіне, але і за яе межамі, цяпер выпускае ў год прыкладна 5 фільмаў, якія самі кінематаграфісты не без горычы ласкава называюць малабюджэткамі. Як паведаміла намеснік генеральнага дырэктара УП "Кінавідэапракат" Мінаблвыканкама Г.П.Куркуль падчас прэс-канферэнцыі для барысаўскіх журналістаў, з гэтых пяці пракат закупляе адзін – два ў залежнасці ад іх мастацкіх і відовішчных якасцяў. Такім чынам, відавочна, што фарміраванне незалежнага нацыянальнага рэпертуару ў кінапракаце пры такім раскладзе справ немагчыма.

Тым не менш, "Беларусьфільм" усё ж спрабуе прабіцца да гледача. У сталіцы прайшлі толькі што прэм'ерныя паказы новага фільма рэжысёра А.Яфрэмава "Павадыр", агульны бюджэт якога складаў 180 тысяч даляраў. Наколькі ён будзе параўнальны з лідэрамі сусветнага пракату, на стварэнне якіх патрачана на некалькі соцень мільёнаў даляраў, урэшце, паглядзім.

У карціне зняты выключна беларускія маладыя акцёры. Гэта лірычная маладзёжная камедыя пра каханне. І яшчэ вельмі важна ўсведамляць, што гэта кіно пра нас і пра наша каханне.

*А.Турко*

# Барысаў у будучым

Я вельмі хачу ўбачыць свой Барысаў у будучым прыгожым, з трамваем ці тралейбусам на галоўных вуліцах. Каб у горадзе было шмат паркаў і сквераў. Абавязкова павінен быць парк у раёне завода агрэгатаў і каб у ім было прыемна адпачываць. Для барысаўцаў і гасцей горада ў парках павінна працаваць шмат атракцыёнаў: "амерыканскія горкі", розныя каруселі і т.п. Павінны быць паветраныя шары, прагулачныя калёры, водныя веласіпеды.

Усе вуліцы Барысава павінны быць чыстымі (гэта залежыць ад нас саміх), з клумбамі і акуратнымі газонамі. Было б добра, калі б у горадзе быў цырк, тэатр.

Я лічу, што гэта залежыць ад саміх барысаўцаў.

*А.Маўчанаў*
*вучань СШ №22.*

## Наша гацёўня

*Пракапенкава Таццяна Мікалаеўна валодае паэтычным дарам. Больш за ўсё любіць чытаць і гуляць з дачкой. Паэтам сябе не лічыць. Пачынала з віншаванняў, дзе, на яе думку, можна поўна і праўдзіва перадаць пачуцці. Лепш пішацца, калі ёсць прадмет, з якога можна пісаць, - прырода.*

*Любімая пара года Таццяны Мікалаеўны – восень, бо пры сумным раеўстанні, на яе думку, заўсёды ёсць што – небудзь весёлае. І наогул, ёй падабаецца хадзіць па апалым лісці і шоргаць нагамі па лісцёваму дывану.*

*Таццяна Мікалаеўна ўпэўнена, што для таго, каб пісаць вершы, трэба верыць, што жыццё – гэта цудоўная рэч, што дабра і добрых людзей у жыцці больш, чым злых.*

**Маёй дачушцы**

Сонейка ўсміхаецца і глядзіць у акно,
Шчасце маё побач тупае са мной.
Для сваёй дачушкі гэты верш пішу,
Словамі і рыфмамі пра яе скажу.
Паглядзі на тварык, зазірні ў вочкі,
Там убачыш сінія званочкі,
Валасы, бы поле спелае пшаніцы,
Што ў жніўні ў сонца колеры пазычыць,
Губкі – жменька ярких ягадак – сунічак.
На іх грае ўсмешка, цеплыню ў дом кліча.
І нічога ў свеце больш я не жадаю,
Толькі шчасця, долі табе, дарагая.

# Чэрвень

Чэрвень, пачатак лета. Сонца праходзіць праз пункт летняга сонцастаяння, найбольшая вышыня яго над гарызонтам на сярэдзіне месяца - 59,4°. Сярэдняя тэмпература паветра 15°С на поўначы Беларусі, 16-17° на поўдні. Абсалютны максімум яе - 36°, назіраўся ў Брэсце і Пінску ў 1885 годзе, мінімум - 5° адзначаўся ў Вілейцы і в.Суша Клічаўскага раёна. У рэдкіх выпадках магчымы начныя замаразкі, здараюцца і снег. У чэрвені глеба прагрэецца да 17-21°С на глыбіню 5см. Адносная вільготнасць паветра 67-72%. Ясных дзён над усёй тэрыторыяй 5-4, пахмурных 6-10; сухіх не болей 2, вільготных 3-4. Атмасферныя ападкі складаюць 70-75 мм, у асабліва дажджлівыя месяцы іх можа выпасці у 2-5 разы больш (Мінск - 221мм, 1903г), а ў засушлівыя 10-20мм і меней (Жлобін - 1 мм, 1940г.). У асобныя дні здараюцца моцныя ліўні, пры якіх нават перавышаюцца амаль сярэднемесячныя сумы ападкаў. Часта выпаральнасць перавышае колькасць дажджавой вады, і гэта прыводзіць да атмасфернай і глебавай засухі, асабліва на поўдні. Для чэрвеня характэрны моцныя вятры, град, ліўні.

У чэрвені цвітуць многія расліны: каліна, шыпшына, ядловец, белая акацыя, маліна, зацвітаюць чарніцы, брусніцы, буякі, журавіны, а на лугах - канюшына, ятрышнік, незабудкі, чына лугавая, кмен, дзмухавец лекавы, чорнагалоўнік. Красуе большасць лугавых злакаў - надыходзіць пара сенакосу. Каласуе і зацвітае азімае жыта; на два тыдні пазней яго - пшаніца, бліжэй да канца месяца – яравыя. Зацвітае ранняя бульба, памідоры, агуркі. Ствараюцца суквецці ў ільну - даўгунцу, гароху. На палях вядуць барацьбу з пустазеллем, у садах - са шкоднікамі, У другой дэкадзе чэрвеня паспяваюць першыя суніцы. Калі красуе жыта, у лесе паяўляюцца першыя летнія грыбы-каласавікі: падбярозавікі, падасінавікі, лісічкі, масляті, сыраежкі і нават баравікі, Праз 1-2 тыдні грыбы знікаюць і з'яўляюцца ўжо ў жнівні-верасні. У канцы месяца ў многіх птушак выводзяцца птушаняты, у лісоў, вожыкаў, ласак, зуброў - прыплод. Падрастаюць маладыя ласяняты, медзведзяняты. Нерастуюць карпы, карасі, ляшчы, ліні. Шмат матылёў, пчол, розных мошак і жукоў, шкоднікаў палёў, садоў, лясоў. Але цяпер мы пачынаем разумець, што шкоднікамі насякомых можна называць умоўна - усё што ёсць у прыродзе - патрэбна, кожнаму - сваё месца і роля ў бясконцым ланцугу жыцця. Збіраюць лекавыя расліны (сярод якіх таксама шмат "шкоднікаў" – пустазелля): палын, падтыннік, хвошч, зуброўку, чабор, фіялку; лісце талакнянкі, трыпутніку, першацвету, барбарысу, падбелу; кветкі рамонку аптэчнага, ліпы дробнай; плады і лісце суніц, парасткі багуну балотнага і інш.

*М.Пучыла*

# Іх вабяць невядомыя краявіды...

*Цёплы час года асацыіруецца ў многіх людзей з турыстычным сезонам. Прагматыкі і гультаі бягуць у турфірмы, а рамантыкі і аматары прыгод выцягваюць з кладовак веласіпеды (байдаркі, красоўкі, скалалазнае абсталяванне, і г.д.)*





Аб асаблівасцях гэтага паходна – палатачнага спорту ў Барысаве мы вырашылі пагутарыць з майстрам спорту па велатурызму, інструктарам школы турызму Сяргеем Голубам.

- На жаль, традыцыйны турызм у Барысаве ідзе на спад. У горадзе засталося ўсяго некалькі чалавек, якія займаюцца гэтым больш – менш рэгулярна. Пешым турызмам займаецца Дзмітрый Цароў з 24 школы. Віктар Бузо арганізуе паходы на байдарках. Я зараз планую правесці велапаход 3-яй катэгорыі складанасці па Гродненскай вобласці. Паглядзім Мір, Нясвіж, Белую Лужу.

Трэба дадаць, што турызмам, але ўжо на больш высокім, не аматарскім узроўні займаецца турклуб на чале з Аляксандрам Калачовым (велатурызм) і секцыя воднага слалату.

- Упершыню мы выехалі ў гэтым годзе на веласіпедах у сакавіку, калі яшчэ ляжаў снег. Бачылі і цудоўнае лясное возера з абрывістымі берагамі - кажа Сяргей Голуб.

Але, па яго ж словах, аматараў прыгожага, згодных з-за некалькіх краявідаў праехаць некалькі сотняў кіламетаў, становіцца меней. Нават з 500 чалавек, што займаюцца ў цэнтры юнага турыста, рэгулярна выбіраюцца ў паходы не больш паўсотні. І ставяцца да іх у лепшым выпадку як да дзівакоў. А на рэштках старога замка, які наведалі і барысаўцы, нехта вялікімі літарамі на непамернай вышыні вывеў: "Смерть туристам!".

Але ня гледзячы ні на што, можна быць упэўненым, што заўсёды знойдуцца людзі, якія не прамяняюць гітары і начное вогнішча на хатнія шкарпэткі і міску поп – корна перад тэлевізарам.

*С.Нялюбін*

# Футбольны агляд

Барысаўская каманда БАТЭ правяла ў траўні тры гульні і атрымала ў іх буйныя перамогі.

На пачатку нагадаем:

**БАТЭ – Ведрыч-97**, 3:0 (Канцавы, Кутузаў);

**Лакаматыў-96 – БАТЭ**, 0:3 (Нявінскі, Кутузаў, Рагожкін);

**БАТЭ – Тарпеда-МАЗ**, 5:2 (Кутузаў 4 галы, Лагун).

Каманды, над якімі была атрымана перамога, не з'яўляюцца фаварытамі сёлетняга сезона. Ведрыч-97 і Тарпеда-МАЗ можна аднесці да сераднякоў, Лакаматыў-96 – да аўтсайдэраў. Варта адзначыць, што ў гэтых гульнях закладзены добры вынік не толькі ў паказчыках па ачках, але і па сумарнай розніцы забітых і прапушчаных мячоў. У першых дзвюх сустрэчах усё ішло па плану: каманда з Барысава зморвала суперніка, а потым дамагалася поспеху. У матчы з Тарпеда-МАЗ гульня складвалася складаней. У першым тайме барысаўцы прайгравалі з лікам 2:0, аднак у другім тайме каманда праявіла характар і забіла пяць мячоў у браму гасцей. Пасля шасці тураў каманда БАТЭ стала адзіным лідэрам. Віталь Кутузаў узначаліў спіс лепшых снайпераў першынства краіны. У заўзятараў і ў гульцоў добры настрой будзе сама мала да 10 чэрвеня, калі гульні адновяцца.

*С.Чарнуха*

Сёння прыводзяцца вынікі за красавік - травень.

| Брамнікі | Г | П/М | П | У | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Федаровіч | 3 | 1 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 3 | 3 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Уладзімір Нявінскі | 6 | 1 | - | 1 | - |
| Генадзь Мардас | 6 | - | 1 | 1 | - |
| Віталь Рагожкін | 5 | 1 | 3 | - | - |
| Дзмітрый Малаш | 2 | - | - | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| Віктар Ганчарэнка | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Аляксандр Лісоўскі | 4 | - | 2 | 1 | |
| Яўген Лашанкоў | 5 | - | 2 | 1 | - |
| Леанід Лагун | 6 | 3 | - | 1 | - |
| Аляксей Бага | 6 | 1 | - | 1 | - |
| Сяргей Міронччык | 4 | - | - | - | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 5 | - | - | - | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Віталь Кутузаў | 6 | 7 | 1 | - | - |
| Арцём Ганчарык | 5 | - | 2 | 1 | - |
| Уладзімір Таран | 3 | - | - | - | - |
| Павел Бяганскі | 2 | - | - | - | - |
| Вячаслаў Грыгораў | 5 | - | 1 | - | - |
| Арцём Канцавы | 3 | 1 | - | - | - |

**Г** –гульні, **П/М** – прапушчана мячоў, **З/М** – забіта мячоў, **Пс** – пасы, **П** – папярэджанні, **У** – удаленні.

# Спартыўныя навіны

**Грэбля**

Напрыканцы траўня праходзіў другі этап Кубка свету па грэблі на байдарках і каноэ. У класе чацвёрак на дыстанцыі 100 метраў выйграла беларуская каманда, у складзе якой выступаў барысавец Аляксей Абалмасаў.

**Лёгкая атлетыка**

На спартакіядзе Менскай вобласці па лёгкай атлетыцы сярод хлопцаў і дзяўчат 1984 – 85 гадоў нараджэння, якая праходзіла 22 – 23 траўня ў сталіцы Беларусі, пераможцамі сталі: Ларыса Мяконькіх (ядро і дыск), Аляксандр Хачатуран (кап`ё), Яўген Нагдзіеў (бег на 200 метраў), Валерый Бялевіч (бег з перашкодамі на 300 метраў) і Тацця на Мікуловіч (скачкі ў даўжыню).

**Бокс**

У горадзе Дзмітраве (Маскоўская вобрасць РФ) прайшоў міжнародны турнір баксёраў 1985 –86 гадоў нараджэння з дзяржаў супольнасці. У вагавай катэгорыі да 60 кг пераможцам стаў барысавец Алег Дымкавец.

**Грэка – рымская барацьба**

Андрэй Бараноўскі з Барысава стаў пераможцам міжнароднага турніру, які праходзіў у Віцебску з 25 па 27 траўня ў вагавай катэгорыі да 63 кг.

**Плаванне**

На алімпійскіх днях моладзі Беларусі на дыстанцыях 50 і 100 метраў Надзея Церах з нашага горада заняла адпаведна другое і трэцяе месца.

*Падрыхтаваў С.Чарнуха*

# Турызм – гэта здароўе

Турзлёт школьнікаў горада меў месца 21 – 23 траўня ў раёне вёскі Дудзінка. Упершыню за апошнія пятнаццаць гадоў браць удзел у спаборніцтвах сабраліся каманды з дваццаці школ, якія прадстаўлялі звыш 400 чалавек.

Як кажуць удзельнікі, спаборніцтвы па велатурызму, тэхніцы пешага турызму, кросе праходзілі пад час у экстрэмальных умовах – дождж, град і рэзкі, парывісты вецер.

Лепшымі з лепшых у гэты раз сталі хлопцы і дзяўчаты з гімназіі №2.

Удалае правядзенне турзлёту адбылося, па – першае, дзякуючы змене стаўлення дырэктарскага корпуса. Пачалі разумець, што турызм – гэта здароўе. "Нам не патрэбны майстры спорту – толькі б дзеці не хварэлі", - кажа дырэктар цэнтра турыстаў Мікалай Нікіценка. Супрацоўнікі цэнтра мяркуюць, што менавіта з гэтага турзлёту пачынаецца адраджэнне традыцыйнага турызму ў Барысаве.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

Нагадваем, што кошт аднаго слова прыватнай аб'явы пры звычайным шрыфце - 40 рублёў, пры выдзяленні аб'явы - 50 руб. Рэдакцыя пакідае за сабою права друку абвестак.

Кошт 1 см² для блочнай рэкламы ў нашай газеце -120 рублёў (з падаткам на дабаўленую вартасць). Кошт 1 см² рэкламы на першай старонцы - 198 рублёў (з ПДВ).

Усе аб'явы і рэклама друкуюцца выключна па – беларуску.

**Даведкі па тэлефоне 3-94-68.**

## Прыватныя абвесткі

### Патрабуюцца

- Швачкі і закройшчыкі, т. 5-54-33

### Запрашаюцца

- Лядзішчанскі гарнізонны дом афіцэраў запрашае на гурткі: бальных танцаў, музычнага аддзялення фартэпіяна, 3-82-21




**Купон для бясплатных прыватных абвестак**

Рубрыка (куплю, прадам ці інш.) ____________

Тэкст ____________

Тэлефон ________ Прозвішча ________

Адрас ____________

Пашпарт ______ № ____________

*Аб'явы без тэлефона і ўказання пашпартных дадзеных не прымаюцца*

*Купон дасылайце на адрас:* ***222120, а/я 43, Барысаў-1***

